Вікенцій Іванавіч

# ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ



# ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ

*Дзяржаўнае*
*Вучэбна-педагагічнае выдавецтва*
*Міністэрства асветы БССР*
*Мінск 1957*



## В. І. ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ

Вядомы беларускі паэт і драматург XIX ст. Вікенцій Іванавіч Дунін-Марцінкевіч (1807—1884) выступіў у беларускай літаратуры як прадстаўнік сентыментальнага напрамку, прыхільнік ліберальнага дваранства. Аднак у творах яго, асабліва ў пасляэформенны перыяд, знаходзім аб'ектыўнае адлюстраванне сялянскага побыту, праўдзівыя, рэальныя малюнкі з жыцця «простага люду». У цэнтры сваёй творчасці ён паставіў чалавека з народа, гаварыў яго мовай. Дунін-Марцінкевіч выклікаў цікавасць да жыцця простага народа, напамінаў аб існаванні беларускай народнай мовы і спрыяў яе развіццю.

Нарадзіўся Дунін-Марцінкевіч у 1807 годзе ў фальварку Панюшкевічы на Бабруйшчыне ў сям'і дробнага арандатара.

Фальварак Панюшкевічы стаяў на беразе ракі Бярозы; тут на ўлонні беларускай прыроды прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады будучага пісьменніка.

Вучыўся Дунін-Марцінкевіч у горадзе Бабруйску, дзе ў 1824 годзе скончыў павятовую гімназію і паступіў у Пецербургскі універсітэт, на медыцынскі факультэт. Правучыўшыся там каля двух гадоў, ён пакінуў універсітэт. Прафесія медыка яго не захапляла, і ён аддаў перавагу кар'еры чыноўніка. Да 1839 года Дунін-Марцінкевіч служыў у розных установах г. Мінска, у тым ліку

ў Мінскай кансісторыі, дзе займаўся перакладамі з польскай мовы на рускую.

У 1839 годзе Дунін-Марцінкевіч набыў недалёка ад Мінска невялікі фальварак Люцынка. Там ён на ўласныя сродкі заснаваў школу для сялянскіх дзяцей і нават некаторы час сам працаваў у ёй. У фальварку Люцынка пісьменнік пражыў да канца сваіх дзён.

Тут, на вёсцы, і пачаў пісьменнік сваю літаратурную дзейнасць. Першы буйны твор яго камедыя «Сялянка», створаная пад уплывам пушкінскай «Барышни-крестьянки», напісан у 1846 годзе. Затым з'яўляецца «Гапон» (1855), вершаваная «повесць у языку беларускага люду напісана»; зборнікі «Вечарніцы» і «Заварожаны» (1855), «Цікавішся? Прачытай!» (1856), «Дудар беларускі ці ўсяго патроху», «Шчэроўскія дажынкі», «Верш Наума Прыгаворкі» (1857). У 1857 годзе пісьменнікам напісаны таксама тры паэмы: «Быліцы, расказы Наума», «Халімон на каранацыі» і «Травіца брат-сястрыца», якія былі забаронены царскай цэнзурай і ўпершыню надрукаваны толькі ў 1945—1946 гадах у часопісах «Беларусь» і «Полымя».

У паслярэформенны перыяд Дунін-Марцінкевіч піша драматычную камедыю «Пінская шляхта» (1866) і камедыю «Залёты» (1870).

Дунін-Марцінкевіч прышоў у беларускую літаратуру ў канцы першай паловы мінулага стагоддзя, калі феадальна-прыгонніцкая гаспадарка Расіі знаходзілася ў стадыі распаду. Наспела неабходнасць у знішчэнні прыгоннага права. На гэта штурхаў увесь ход эканамічнага развіцця краіны. Але Дунін-Марцінкевіч як выразнік дваранскай ідэалогіі, прадстаўнік ліберальна-дваранскай літаратуры стаяў за захаванне прыгону.

У сваіх творах дарэформеннай пары Дунін-Марцінкевіч паказвае ідылію класавых узаемаадносін паміж панам і селянінам. Ужо ў першым творы — камедыі «Сялянка» ён імкнецца прымірыць гэтыя два варожыя паміж сабой класы, намагаецца стварыць такога ідэальнага памешчы-

ка, які стаў-бы ўзорам для дваранства, «добрым бацькам сялянству».

У паэме «Гапон», найбольш спелым творам дарэформеннага перыяду, Дунін-Марцінкевіч паказвае паню як шчырую клапатлівую абаронцу сялян. Аўтар не адступае ад сваіх прынцыпаў у паказе добрага ласкавага пана і ў творах «Шчэроўскія дажынкі», «Вечарніцы» і інш. У гэтым выяўляецца класавая накіраванасць пісьменніка, яго буржуазна-сентыментальны лібералізм.

Аднак жыццё і побыт простага чалавека займаюць пачэснае месца ў творчасці Дуніна-Марцінкевіча. У яго творах мы знаходзім ярка і выразна намаляваныя абразкі сялянскіх вячорак, свят, бачым селяніна ў акружэнні бытавых з'яў. Тое, што ў цэнтры сваёй творчасці Дунін-Марцінкевіч паставіў чалавека з народа, паказаў яркія, рэалістычныя малюнкі жыцця і побыту простых людзей вёскі — сялян, з'яўляецца станоўчым, прагрэсіўным у творчасці пісьменніка дарэформеннага часу.

Ужо ў гэты перыяд Дунін-Марцінкевіч усё больш прыкметна схіляецца ў бок рэалізма. Прыкладам можа служыць паэма «Быліцы, расказы Наума» і асабліва яе працяг «Халімон на каранацыі», дзе пісьменнік паказвае высокія маральныя якасці чалавека з народа, яго звычаі і норавы, паказвае селяніна ў новых для яго абставінах.

Найбольш прагрэсіўнымі рэалістычнымі творамі Дуніна-Марцінкевіча з'яўляюцца яго камедыі «Пінская шляхта» і «Залёты», напісаныя ў пасляпэформенны перыяд.

У камедыі «Пінская шляхта» Дунін-Марцінкевіч у гумарыстычным тоне высмейвае засцянковую шляхту, якая ўпарта трымаецца старых традыцый і звычаяў, паказвае яе некультурнасць і ганарлівасць. Яна нічым не адрозніваецца ад акружаючых яе сялян і толькі ганарыцца сваёй прыналежнасцю да дваранства.

Асноўным персанажам у п'есе, вакол якога разгортваецца дзеянне, з'яўляецца станавы прыстаў Кручкоў. У гэтым вобразе аўтар паказвае тыповыя рысы царскага чыноўніка-бюракрата, яго свавольства, самаўпэўненасць, хцівасць да грошай і абмежаванасць светапогляду. Вобраз Кручкова — гэта тыповы, абагулены вобраз чыноўніка, хабарніка і казнакрада. Нездарма п'еса была забаронена царскай цэнзурай і надрукавана толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Станоўчымі вобразамі ў п'есе з'яўляюцца Грышка і Марыся, прадстаўнікі малодшага пакалення, носьбіты чалавечай годнасці. Яны шчыра кахаюць адзін аднаго і выступаюць супраць старых дамастроеўскіх традыцый. У творы пісьменнік паставіў праблему бацькоў і дзяцей, паказаў імкненне апошніх да новых норм жыцця.

У камедыі «Залёты» Дунін-Марцінкевіч высмейвае вясковую буржуазію. Аўтар заўважыў нараджэнне на вёсцы новага пана, прадстаўніком якога ў п'есе з'яўляецца кулак Сабковіч. Гэта грубы, жорсткі і цынічны эксплуататар. Ён нажыўся на слязах і ашуканстве сялян, гатоў рабаваць і раздзяваць людзей. Аўтар у творы крытыкуе капіталістычныя адносіны, хоць гэтая крытыка мае абмежаваны характар.

У сваіх паслярэформенных творах Дунін-Марцінкевіч адлюстраваў нездаволенасць працоўных мас сялянства існуючымі парадкамі. Нажаль, вышэй гэтага ён не падняўся. Тым не менш творчасць яго з'яўляецца значнай вехай на шляху развіцця беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Яна і сёння не страціла свайго мастацкага харяства і пазнавальнага значэння. Дунін-Марцінкевіч з'яўляецца першым беларускім пісьменнікам-драматургам, які даў добрыя ўзоры камедыйна-сатырычнай драматургіі. Драматычныя творы Марцінкевіча, асабліва камедыя «Пінская шляхта», з'яўляюцца значным укладам у развіццё нацыянальнай беларускай культуры.

*В. Рудакоўскі.*



# ГАПОН

*(Аповесць)*

## ПЕСНЯ ПЕРШАЯ

Калі ахвота начата;
Што-ж стаіце, як цялята?
Далей, хлопцы, маладзіцы!
Зачніце ад «мецяліцы».
*(З камедыі-оперы «Сялянка».)*

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажно курыцца чупрына.

Гаспадары за сталом
Громка гутарку вядуць;
А ляндарка[1] з лендаром
Мёд, гарэлку раздаюць.

Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чараўніцы
Цішком ля печы сядзяць.

Ананя на скрыпцы іграець
«Лявоніху», то «бычка»;
Гапон жару паддаваець:
«Заграй, крычыць, «казачка»!»

---

[1] Арандатар карчмы.

Аж юкнула Кацярынка,
Так задаў ёй кулаком:
«Хадзі, мая ты малінка!» —
Дый затупаў хадаром.

«Ананя, рэж вясёлы!» —
Крычыць громка наш Гапон,
Дый сабраўшы ў світцы полы,
Мэрам хохлік! мэрам ён!!

То ўпрысядкі выкідаець,
Ажно стогнець пад ім пол,
То галубца падбіваець,
Ажню трасецца хахол.

«Ах! ух! давай жару,
Давай болі, давай пару!» —
Крычыць Гапон, дый гуляець,
Пад скрыпачку падпяваець:

Эй, чух, Кацярынка!
Чабоцікі красны;
Каму блішчаць, каго любяць
Тваe вочкі ясны?

Эй, чух, Кацярынка!
Тваe кудры ўюцца,
Скачыць, пляшыць мая міла,
Аж шчочкі трасуцца».

Тройчы Гапон прамахнуў,
Бразджаць ножны з агнівом,
Стаў на месцы — падпрыгнуў,
Дый затупаў хадаром.

Кацярынка-ж успляснула,
На міленькага зіркнула,
Хвіць! спаднічку распусціла,
Тройчы запяткам падбіла,

Дробны ножкі выкідаець,
Чаравічкі скрыпяць,
А із вочак аж сіяець,
Быццам іскры ляцяць.

Русы коскі падлятаюць,
Каснікі, як жар, гараць;
А вось вышай як зайграюць,
Так і возьме прыпяваць:

«Мілы Хартон, мілы Саўка,
Да мілейшы-ж мой Гапон,
Хахол ясны, пояс красны,
А галасок! кабы звон.

Не хачу Саўкі, Хартона,—
Мне жыццяз імі не быць,
Валей [1] маяго Гапона,
З ім не буду я тужыць».

Пяець, пляшыць, падбіваець,
Усяк вокам за ёй брадзець,
Як ластачка, падплываець,
Ажно хочацца глядзець.

Ананя-ж — воўча юха!
То ўжо нечага маніць!
Ярка рэжа! із-за вуха,
Аж скрыпка яго звініць.

«Мяцеліцу» прабірае,
Ёмка, громка, ладны час!
Дробна смыкам падсякае,
Звініць рымка [2],— гудзіць бас.

Локаць упёршы у бруха,
Ля кабылкі нос дзяржаў,
Далей сціхнуў — дый з-за вуха
На «лявоніху» падняў.

Схваціў Гапон Кацярынку,
Смела к сэрцу прыцягнуў,
Абняўшы рукой за спінку,
«Лявоніху» успрыгнуў.

---

[1] Лепей.
[2] Струна скрыпкі.

Угрунь за ім маладзіцы,
Дзеўкі, хлопцы, хто як змог,
Дрыжаць чупрыны, спадніцы,
Суматоха — што крый бог!

Ад пылу аж пацямнела,
Хохат, лопат, шум ды крык,
Як у гаршчку закіпела,
Як на быдла напаў зык.

Той ўпрысядкі, той выкідкі,
Чупрыны, як шчэць, дрыжаць,
Тая бокам, тая скокам,
Дый так возьмуць прыпяваць:

«Ах, калі-ж я у матулькі была,
Як вішанька у садочку цвіла,
Папалася злому духу! мужыку,
Ён высушыў, як ліпінку у духу,
Наехала повен двор татароў,
Ды ўзялі-ж майго-ж мужа у палон,
Не жаль-жа-ж мне, што яго узялі,
Толькі шкода, што някрэпка звязалі;
Ён, паганец, уцячэць, уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць, натаўчэць.
Трэба-ж будзе сцерагчыся, уцякаць,
З вераб'ямі пад страхою начаваць».

Далей крыкнула Тацяна,
Абняўшы за шыю Яна:
«Пайшоў Янка ў грыбы,
Тацяна ў апенькі,
Спаткаліся, абняліся,
Як дзеткі маленькі».

А за ёю Халімон,
Гудзіць, як царкоўны звон:
«Ой, божа мой, божа!
Нашто я радзіўся?
Састарэўся, як сабака,
Дасюль не жаніўся».

Перастаў.— Гапка спляснула
Дый тоненька зацягнула:
«На вуліцы курта[1] брэша,
А да мяне мілы чэша,
А ці чэша, ці не чэша,
Ды не дарам курта брэша!»

Вот так пляшуць, прыпяваюць,
Хохат, лопат, крык і зык,
Аж пад строп пыл падмятаюць,
А як рэзаў — рэжа смык!

Аж тут скрып!.. дзверы суздром[2]
Расчыніліся... трывога!
Бо з войтам сам аканом
Як тут — знайшліся ў парога.

Уся ахвота прыўстала,
На ўсіх страхатня напала:
Ананя-ж — як уцяў!
Пахінуўся напярод,
Па ўсіх струнах запішчаў,—
Так кончыўся карагод.

І Гапону не да танца,
Як аконама, паганца!
Ён угледзеў, так прыстаў,
На ўсё горла закрычаў:

«Ой, будзе-ж нам цёпленька, браткі!
Хто малады, уцякай з хаткі!
Нядарам сталі шаптаць,
Што некрутаў будуць браць.
Пабірай іх ліхі бес!
Хто дуж, уцякайма ў лес!»

Тут настала суматня,
Ўсяк бяжыць маўляў з агня,
Адзін дзверы выпірае,
Другі ціснецца пад стол,

---

[1] Кароткахвосты сабака.
[2] Разам, цалкам.

Той цераз акно сягае,
А Гапон хваціў за кол,
Дый спіной стаўшы ў куце,
Як мятлой, усіх мяце.

Вот калі пакурцяў[1] туча
Гурмам мядзведзя асадзіць,
А ён, са злосці мармуча,
Як каторага пагладзіць,
Той з болю яўкне, той брэша,
Так Гапон наш колам чэша.

Ён вярцеўся, кабы ўюн,
Сюды і туды кідаўся,
Не жалеў, біў хто папаўся,
Але і коман[2] цікун!
Глядзь! усякія плахціны[3],
То кажухі, то пярыны,
На Гапона стаў кідаць,
Не дзіва-ж было паймаць:
Яго, беднага, звязалі,
Дый у калодкі скавалі;
Годзе вадзіць карагод!
Кацярынка-ж пабляднела,
Заплакала, абамлела,
Прышоў на іх чорны год.

## ПЕСНЯ ДРУГАЯ

Над сіратою
Бог з калітою.

*(З камедыі-оперы «Сялянка».)*

У вялікім у сяле,
Над дняпроўскай стараною,
На прыгорку у вугле,
Між лесам ды між ракою,
Там стаялі дзве хаціны:
Усцінні, друга Гарпіны.

---

[1] Сабакі.
[2] Аканом.
[3] Палатно, сувоі палатна.

Першай мужык быў Мірон;
Нівесь за якія грэхі,
Не дажыў з сына пацехі,
А той сын быў наш Гапон.

Ён, — няма чаго казаць!
Горды, смелы, зух-дзяціна!
За сваіх умеў стаяць,
А прыгожы, як маліна,
Ды й пісьменны-ж быў ён:
На яго са ўсіх старон
Дзеўкі сумаўчком зіркалі,
На ігрышчах прысядалі;
А Гапон ані глядзіць;
Ён пры суджанай дзяўчыне,
Наймілейшай Кацярыне,
Як прысядзе — дык сядзіць.

У ўдавы-жа Агрыпіны,
Апроч дачкі Кацярыны,
Болей не было сваіх;
Яна з Усцінняй, кумою,
Жыла, як рука з рукою,
Адна дума была ў іх:
Штоб сваіх дзетак сасватаць,
Штоб худобку ім прыпратаць,
Штоб, як сядуць на сваём,
Яны весела зажылі,
Без патрэбы не тужылі,
Не рупілі ні аб чом.

У Грыпіны-ж Кацярына,
Крый божа! бяды не знала,
Як у садочку маліна,
Расла, цвіла, даспявала;
На шчочках кроў з малаком,
А вочкі блішчаць агнём,
І семнаццаць ужо лет,
Як прышла яна на свет.

Ну-ж з сабой кумы сайдуцца,
Тут зараз гадкі [1] начнуцца:
«Пара, баш, дзяцей жаніць;
Яно ўсякі адклад

[1] Меркаванні, гаданні.

Не вельмі ідзе ў лад;
Пойдам пані чалом біць:
А там дзейся божа воля!
Як прыбяром усё з поля,
Дзетак к вянцу павядзём».
Гэтак стары гаманілі,
І, напэўна, улажылі,
Ды памяшаў аканом.

Ён — баш ты, сабачы сыну!
Упадабаў Кацярыну,
Дый ну-ж, к беднай падсядаць;
То ластачкай падплывае,
Красны слоўцы выпускае,
Штоб як-небудзь яе ўняць.

А Кацярынка — нябога!
«Бойся, кажа, паніч, бога!!
Гэта-ж грэх така напасць;
Як пажалюся Гапону,
Ён, пэўне, такога гону
Панічу цішком задасць,
Што зубоў не пазбіраеш
І ахвоту пацяраеш
Чужых нявестак глуміць».
Коман Гапона злякаўся —
На час адстаў, ды закляўся
Маладых ён пагубіць.

Вот ночка яшчо цямненька,
Дождждык, як з сітца, прышчыць,
А войт даўным-даўнюсенька
Загад пад акном крычыць:
Хто пойдзе драва рубаць,
Хто крупы таўчы і драць,
А хто з цэпам малаціць,
Каму брагу калаціць.

А вось і аконам сам
Прыбег к карчме на кані.
«Слухай, крычыць, слухай, хам!
У карк шэльмаў тых гані!

Бо як толька апазняцца,
То скажы тым гультаём,
Што й здароўем не відацца,
Так задам ім нагаём».

А ўжо нечага маніць:
Доўга будзеш памятаць,
Калі возьмець драць і біць,
То і з зямлі не ўстаць.

А вось блíснулі агні,
Войт стадолу адчыніў,
І аконам на кані
У стадоле — як тут! быў.
«Гэй, дабрыдзень, аляндару!
Што тут новага чуваць?»
— «Уф! Вяльмозны камісару [1]!»
Дый так яму стаў брахаць:

«Ясны пане! сто-з тут цуць,
Цы я магу ўсё знаць,
Ат!.. ведама — людзі п'юць,
Каб толька на доўг даваць.
Ну!.. як пан мне прыказаў,
Каб я таго не цыніў,
То напавер і не даў,
Хоць Гапонцык і прасіў
Маёй Сэйны, сто бог крый!
А як я не дапусціў,
То ён, ухваціўсы кій,
Вельмі брыдка сярдзіт быў.
Ну!.. Пан, ясны, звазай сам,
Калі схоцэць хто у сваты.
Цы то дзела будзець нам,
Цы мы таму вінаваты?»

— «Як то ў сваты! то Гапон
Ужо задумаў жаніцца?» —
Крыкнуў з сэрцам аканом
І вось як начаў браніцца:
«Ах ты юха! ах ты пес!
Ты латруга! — знаю я,

[1] Наглядчык, загадчык прыпасамі ў маёнтку.

Куды цябе хіне бес;
Да пастой, душа мая!..

Ты тут, войт?» — Войт пакланіўся
Ды за вухам пачасаў;
«Да тут, пане!» — абвясціўся.
Ось аконам закрычаў:

— «Бяжы, гыцлю, мне сійчас!
І Гапончыку скажы,
Каб явіўся сюды ўраз,
Спраўна-ж, гыцлю!.. ну... бяжы!..

А ты, пане аляндару!
Паднясі-жэ мне гарэлкі».
«Гіт! гіт![1] Ясны камісару». —
Дый пачаставаў з тарэлкі
Поўнай шклянкай; — аканом
Выпіў з шклянкі, закусіў,
Аж тут з войтам і Гапон
Цераз парог праступіў;
У пояс ён пакланіўся,
«Нех бэндзе!»[2] — громка сказаў,
Крыху ўперад падступіўся,
І, што вяляць, дажыдаў.

Рыжы вусы аканома
Шчэццю ўверх падняліс;
Зыркнуў скоса на Гапона,
Вочы кроўю залілісь,
Губы страшна пакрывіў,
Кнут у жмені аж трашчыць;
Як к Гапону падступіў,
Так і ўзяў яго сушыць.

— «Як ты смееш, воўча юха!
Без двара у сваты слаць?»
І бразнула апляўха,
Што Гапон ледзь мог устаць.

---

1 Гіт! гіт! (яўр. скажон.) — Добра! добра!
2 Някай будзе (польск.) — прывітанне.

«Ось я табе, ўражы сыну!
Як адвешу сатні дзве,
То забудзеш Кацярыну
Да забудзеш і сам гдзе».

Гапон на бок пашатнуўся,
Твар далоняю закрыў,
Навакола абглянуўся
Да за таўкач ухваціў.

— «Каб я бога не баяўся,
Паказаў-бы я табе!!
Чаго ты тут прыскяпаўся?
Думаеш, баюсь цябе?
Пані за то не сярдзіцца,
Хоць шлюць сваты без двара,
І пазваляе жаніцца,
Як каму на то пара.
А ты! маўляў ваўкалака,
Здзекуешся тут над намі;
Сцеражыся-ж... ты, сабака!
Помні, што і мы з зубамі».

Коман, як ту рэч сумеў,
Да стадолы пабяжаў,
Гапон кончыць не паспеў,
Так з карчмы ён цягу даў.

Крый госпадзь як ён злякаўся,
Ледзь дахаты змог прыбыць,
Да на ўсіх святых закляўся
Гапона навек згубіць.

Вечарком раз ў двор ідзе,
Яснай пані б'е чалом,
Быццам верны аканом,
Ён такі ляпорт[1] вядзе:

«Кепска, пані, у нас чуваць,
Уся воласць у трывозе,

[1] Рапарт, данос.

Не адзін будзе ў астрозе;
Хлопцы сталі бунтавацъ».

«Хрыстэ, пане найласкаўшы!»[1] —
Крыкнула пані, прыўстаўшы;
«А то чыста кара неба!
Бедны люд ратоваць трэба».

Коман затылак пачэша,
Дый так далей пані брэша:
«Гапона трэба ўняць:
Нівесь, як ён там пранюхаў,
Чы ў дварэ, можа, падслухаў,
Што некрутаў будуць браць.
Ён усіх хлапцоў сазваў
Дай так, баш, ім расказаў»:
«Бяду, браткі, мы наждалі,
Некрутаў здаваць казалі;
Чаго тут добрага ждаць?
Трэба ў лес уцякаць.
А не — усе сабяромся,
Хто з калом, хто з абухом,
І за нішто не дадзёмся,
Хоць там трэсні аканом».
— «Гэтакі, баш, мой совет,
Іной, пані, рады нет,
Трэба Гапона паймаць
Дый першага яго здаць,
Тагды усе пабаяцца,
Перастануць бунтавацца».

Пані рукі заламала,
Са страху на ўсё прыстала.
Так Гапон наш кончыў танец,
Ён надзеў казённы ранец
І пайшоў цару служыць.
Кацярынка-ж усцяж плача,
А коман пры беднай скача,
Вот налёг яе згубіць:
Прыказаў зазваць у двор
Дый у прачкарню упёр;

[1] Словы малітвы (польск.).

Баш! узяла погань моч:
То прыкінецца ў ёй лісам,
То са злосці страшным бесам,
Штоб як-небудзь яе змоч.

А Кацярынка галосіць!
І, падняўшы к небу рукі,
Яна бога ўсцяж просіць,
Штоб акончыў цяжкі мукі.

Так раз яна ў садочку,
Дый у цёмным у куточку,
Горкі слёзкі вылівала,
Сваю долю праклінала.
Бог пажалеў сірацiну, —
Трэба-ж у тую гадзіну
Пані па саду гуляць
І бедненькую спаткаць.

«Што ты, сэрца, цяжка стоніш,
Аб чом горкі слёзкі роніш,
Хто пакрыўдзіў, скажы мне?»
Кацярынка-ж без трывогі
Яснай пані пуц у ногі,
Дый так расказ свой іме:

«Пані наша найяснейша!
Маці наша наймілейша!
Вот крыўда мая така!»
Ну-ж тут праўду ёй казаці,
Аканома цукраваці,
Не жалела-ж языка.

У пані вушы павялі,
Аж валасы дыбам сталі,
Як пачула той расказ,
І успляснула рукамі,
І залілася слязамі,
Дый такі дала прыказ:

«Што-бы пана аканома
Ні нагі тут каля дома
За гадзіну не было».

2*

Вот ён, далоў нос спусціўшы,
Ды, як воўк, вушы стуліўшы,
Пакінуў двор і сяло.

З той-жэ пары Кацярына,
Як пакаёва дзяўчына,
Пры пані стала служыць;
Пані яе палюбіла,
Чытаць, пісаць навучыла,
Па ксёнжцы бога хваліць.

## ПЕСНЯ ТРЭЦЯЯ

Хто пад кім яму капае,
Часта сам туды ўпадае.
*(З камедыі-оперы «Сялянка».)*

Не так скора час праходзіць,
Як казка рэчы выводзіць,
Вот пяты гадок настаў,
Гапон на вайне як служыць,
Кацярынка па ім тужыць,
А аконам — цягу даў.

У горадзе Магілеве,
Пры шырокім, пры Дняпрэ,
Гудзіць — кабы шэршні ў дрэве,
Кіпіць — як-бы у катле.

Там уліцаю пан гоніць,
Каляска стралой ляціць,
Пад каньмі аж зямля стоніць,
«Ахварысь, падзі!» — крычыць.

Тут сустрэнеш каламажку,
Вот конікі! глядзь! кругом
Гладкі — ляцяць уразмашку;
Гэта пэўне аканом.

Далі хтось там на драбіне,
Конік, быццам рак, паўзе,
Згадаеш па кіслай міне,
Што пасэсара[1] вязе.

---

[1] Часовы ўласнік маёнтка, арандатар

А там хвурманак багата,
Маўляў грыбоў у бару;
Глядзіш! то нашага брата
Вязуць на службу цару.

Кабы галодны сабакі,
Так жыдаўскі лапсардакі
Лезуць к табе саранчой;
Пападзіся-ж ім у когці,
Наўрад патрафіш іх змогці,
Вытрабушаць карман твой.

Вот у каменны палаты
Сходзяцца паны багаты,
Золата на іх кіпіць;
Мужычкоў туды-ж прыводзяць,
І аднадворцы прыходзяць,
Там на службу маюць брыць.

На сярэдзіне святліцы
Стаіць стол накрыт сукном,
Пры ім, з крыжам у пятліцы,
Падпёршыся кулаком,
Ясны маршалак сядзіць;
Ён, маўляў рабін у школе,
Ці як хвурман у стадоле,
Важна так на ўсіх глядзіць.

Направа пан вельмі строгі,
Вусы, як у быка рогі,
Вот так старчмою стаяць;
Валасы яго сівенькі,
Мундзір на ім галубенькі,
На грудзях крыжы блішчаць.

А за ім якісь пузаты,
Быццам мядзведзь, так касматы,
Гэта дохтар мае быць;
Рукі за сабой трымае,
Пальцамі перабірае,
Дый часта ў карман глядзіць.

З левай стараны маршалка,
Тоненькі, просты, як палка,

На розум, відна, хіцёр!
Ен спадлоб'я паглядаець,
У руцэ пяро трымаець;
Гэта, кажуць, пракурор.

На канцы які́сь вайсковы,
Смуглы, відны і здаровы,
Прыгожанькі кавалер!
Часта ён на стойку вокам
Меціць ў раздум'і глубокам;
То прыёмны ахвіцэр.

Вот з крэсла маршал схваціўся,
Усім у пояс пакланіўся,
Табакеркай заскрыпеў;
Далі крыкнуў да дазорцы:
«Няхай начнуць аднадворцы!» —
Дый зноў на места прысеў.

Тут ля бакавой раздаўся
Святліцы жалобны стон,
І найпершы паказаўся
Наш знаёмы аканом.

Як прышла шляхце трывога,
Штоб бумагі ўсяк складаў,
Коман, з дапушчэння бога,
У аднадворцы папаў.
І вот, маўляў, не урокам
Кажучы, пагана чэсць!
Трэба-ж, бытта-бы нарокам,
На вочарадзь яму ўлезць.

Як вала вядуць на бойку,
Так аконама пад стойку,
Ён-жа не пацягне й ног;
Да скорчыўся у клубочак,
З дахтара не зводзіць вочак,
А так стогне, што крый бог!

Дохтар важна прыступае
І некрута аглядае,
Зубы, ногі, бакі, стан;

Патуль каля яго тупаў,
Пакуль кругом не ашчупаў,
Вот, маўляў, каня цыган.

Відна з сабой яны зналісь,
Пярвей, відна, паўстрачалісь:
Дохтар, баш, ганьбу нашоў.
Кажа, ў службу не ґадзіцца,
Яму трэба палячыцца,
Да і меры не дайшоў.

А некрут: «Маі паночкі,
Вы, ясныя сакалочкі!
Гдзе тут хвораму служыць?
Вот так коле мне ў грудзі,
Што сухвоты, кажуць людзі,
І ў баку вельмі баліць».

Кабы варам абліў плечы,
Як пачуў гэтакі рэчы
Наш малады ахвіцэр;
Ён з места свайго самкнуўся,
Пры некруце апынуўся,
Глядзіць, быццам ліхі звер.
Пад стойкай яго прастуе,
Струной цягне, дый мацуе,
А ў бараду кулаком
Як парадкам яму суне,
Глядзі! вот саўсім ачуне
Наш няшчасны аканом.

«Нашто людзей, кажа, зводзіць?
Ён меру нават праходзіць,
Я бяру на свой атвет;
Яка тут к чорту хвароба?
Здаць! — а пасля будзе проба,
Возьмем яго ў лазарэт».

Дохтар кішэню пачухаў,
Маршал табакі панюхаў,
Некрут жаласна запеў;
Сударга на аканома
Напала; пазнаў Гапона —
Дый са страху абамлеў.

## ПЕСНЯ ЧАЦВЕРТАЯ

Ехала Агатка да вянца,
Сыпала золата з рукаўца;
Хто гэта золата пабярэць,
Той мяне на вянец павядзець.
*(З вясельнай песні беларускага люду.)*

«Начніце варгі [1] нашы хваліць панну свенту!
«Начніце апавядаць чэсць ёй непаенту».

Гэтак тонкім галасочкам,
У дварэ раз вечарочкам
Кацярынка прыпявае:
Яна ў добрай ахвоце
Хваліць бога пры рабоце,
А пані ёй памагае.

Цяпер нашу Кацярыну,
Тую сельскую дзяўчыну,
Хто-б сустрэнуў — не спазнаў;
Панску гаворку сумела
І сукеначку надзела,
Быццам паненка — маўляў!

А хоць яна пакідала
Яркі каснікі, гарсет,
Да ў душы не перастала
Уздыхаць да прошлых лет.

Вот часта яна ў святкі
Пабяжыць да сваёй маткі,
Да сэрца яе прыляжа,
Роніць слёзкі дый так кажа:

«Радная ты мая маці!
Пажалей свайго дзіцяці,
Слёзкі яго асушы.
Гдзе-ж Гапонка наш дзяецца,
Як беднаму там вядзецца?
Цяжанька-ж мне на душы.
Яшчэ-ж штоб Усціння жыла,
Яна-б з намі патужыла,

[1] Варгі (польск.) — губы.

Утраім было-б лягчэй;
А то цёмная магіла
Яе, родную! пакрыла, —
Не змагла тугі сваей».

Вот так, баш, як мы казалі,
Яны з паняй вечарком
Святы песні запявалі,
Аж лакей убег прытнём[1]
Дый кажа: «Пані вяльможна!
Заехаў у двор цяпер
Якісь важны ахвіцэр
І пытаецца, ці можна
З яснай паняй павідацца,
З сваёй чэсцю паказацца?»
А пані кажа — прасіць!
Дай чапец свой падцягнула,
На Кацярынку зіркнула,
Ці няма ў чым пахуліць.

Тут у дзвярэй паявіўся,
Сюды, туды пакланіўся
Прыгожанькі ахвіцэр;
Красны, відны і здаровы,
З ясным вокам, чорнабровы,
Золатам блішчыць мундзер.

Як глянула Кацярынка,
Здрогнула, маўляў асінка,
Слёзкі брызнулі з вачэй;
Ручкі на грудзях зложыла,
Быццам другі раз ажыла:
Гапон нашоўся пры ей.

Ён гэтак, баш, як стаяў,
Угрунь кінуўся у ногі
Яснай пані і начаў
Свае рэчы без трывогі:

«Спазнай, панюхна, Гапона,
Што ласкаю аканома
Цару ён пайшоў служыць;
Ён на вайне заслужыўся,

[1] Хутка.

І ахвіцэрства дажыўся,
Цяпер-жа мае прасіць,
Штоб ты, пані! — кабы маці,
Маўляў, сваёму дзіцяці
Долю шчасну даравала;
І, калі згодна ядына,
Наймілейша Кацярына!
Зручыць нас не адмаўляла».

Кацярынка-ж, як стаяла,
Тут-жа к нагам ёй прыпала,
А так міленька глядзіць!
Што пані і расплылася,
Крэпка з ёю абнялася,
Дый ну-ж іх благаславіць.

Хоць Гапон чыноў дажыўся,
Да ведаў, з каго радзіўся,
Не хацеў прынараўляць
Паном, — а простым звычаем,
Ён мужыцкім абычаем
Здумаў вяселле сыграць.

Вот у ўдавы Агрыпіны
Гаспадароў повен двор,
А наперадзе дружыны
Стаіць важна сват Хвядор;
У руках з гарэлкай пляха,
А чарка таўста, як вол,
Міргнуў! — і Малання-сваха
Абрусом накрыла стол.
Ён пляшку з чаркай паставіў,
Разны закускі дабавіў,
Дый з галавы шапку зняў;
Агрыпіне пакланіўся,
Водкі да яе напіўся
І такі рэчы начаў:

«Нех бэндзе Езус Хрыстус пахвалёны!
Для спасення грэшных з Марыі зрадзоны.
Не прышлі мы чарадой ад сябе,
Да праслаў нас Гапон да цябе.
Ёсць у цябе Кацярынка-дочка,
Яна ў маці, як правае вочка;

Дый Гапон наш малады,
Ён цару верна служыў,
Чыноў, почасцей нажыў,
Хват-дзяціна — хоць куды!
Б'ём мы ўсе чалом вашэці!
Зазаві яе із клеці,
Няхай з намі пагуляе,
Дый гарэлкі папытае».

Тут дзяўчаты, маладзіцы
Кацярынку із святліцы
Чэсна пад ручкі вядуць
І такі песні пяюць:
«Ото-ж табе, Хвёдарка,
Увядзёнка Кацярынка,
Калі яе любіш, дай пірог,
Калі не любіш, то вон за парог!
Не хваліся, што ў нас быў,
Што нашай Кацярынкі не злюбіў».

Хвёдар маладку ўстрачае,
Поўнай чаркай прапівае,
Пірог, сыр кладзе на стол;
Гарэлка ў міску льецца,
Рублявік на дне бадзецца,
Разгуляўся сват вясёл.

А дзеўкі водку забралі,
Закускі, пірог і сыр,
У істопку пабяжалі,
Галосячы на ўвесь мір;
Уздаволь там пілі, елі
І гэтакі песні пелі:

«Мовіла бочачка, у піўніцы стоячы:
Калі мяне не вып'еце,
Сама выкачуся,
Па дварэ разальюся
Ракой да крыніцай,
Сцюдзёнай вадзіцай.
Мовіла Кацярынка, у маці седзячы:
Калі мяне не выдасі,
То я сама пайду;

Па двары памаленьку пабраду,
За вароты ўгрунь пабягу».

Тут яны у позну ночку,
Аж да яснага світочку
Пілі, елі дый гулялі,
Запоіны праваджалі.

А ў суботу вечарком,
За Грыпініным сталом,
Сядзела така дружына:
На почэсным на куце
Важна гаворку вядзе
Перша сваха Акуліна.

Дружкі ўправа, возле сваці,
Дзве прыгожы маладзіцы,
То Гапоніны сястрыцы,
Хоць не адной яны маці.

Улева намеснік сядзіць,
Жадна на пляшку глядзіць.
Далі сустрэнеш Гапона
Дружкоў, Янку і Мірона,
На канцы-ж хросны Даніла,
То маладога вазіла.

А сват Хвёдар, то і дзела!
Гарэлку ўсцяж падлівае,
Новы закускі стаўляе:
Пірагі, сыр, што прыспела.

Тут чатыры маладзіцы
Цягнуць дзяжу із святліцы,
На крыжу яе стаўляюць,
Бел каравай рашчыняюць;
Сваха муку ім прыносіць
Дый благаславення просіць:
«Ёсць тут бог дый матка
Радзоныя і суседзі блізкія,
І дальнія мужы сустрэчныя,
Бабкі запечныя,
Дзеткі заплечныя,
Благаславіце краснай панне каравай
учыніць».

Каравайкі-ж пры рабоце
Пяюць у добрай ахвоце:
«Благаславіце, людзі!
Блізкія суседзі,
Гэтаму дзіцяці
Каравай замясіць
Ручкамі бяленькімі,
Персцянямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі.
— «Ты ступ, божа, з неба,
Як нам цяпер трэба,
Памагаў рашчыніць,
Памагай замясіць.
Не стой, божа, за дзвярмі,
Да йдзі, божа, ў хату,
Да сядзь, божа, на куце,
Да дай долю маладзе!»
— «Я ў хату не пайду,
Я за дзвярмі пастаю,
Маладзе долю перашлю».
— «Збірайся, родзе!
Да к беленькаму караваю,
Старыя бабы ля парадку,
Маладыя маладзіцы песні пець,
Удалыя малайцы каравай печ».

Да штоб усё расказаці,
Які парадак у хаце,
Як змовіны адбылі,
Дый каравай адпяклі,
Як хлопцы, дзеўкі скакалі
«Лявоніху», то «бычка»,
«Мяцеліцу», «казачка»,
Як маладую саджалі
На пасад — казка така,
Што не стала-б языка.

Вот прышла нядзелька красна,
Засвяціла зара ясна,
Гапон наш мундзір надзеў;
Шчыра ўздыхнуў да бога,
Сеў на каня варанога
Дый к маладой паляцеў.

А дружбы, Янка з Міронам,
Віхрам садзяць за Гапонам:
Следам хлопцаў грамада
Ляціць — песні запяваець,
Вецер світкі развяваець,
Ну! прыгожа чарада!

На канцы вазком Даніла
Гудзіць! — колькі зможа сіла,
Канём музыку вязе;
Ананя-ж прыпяваець,
Ёмка смыкам падсякаець,
Не заўважыў, што трасе.
Як заехала дружына,
З хаты вышла Агрыпіна,
Надзеўшы кажух наўзнак;
Чарку Гапону падносіць,
У святліцу зайці просіць
І рэчы выводзіць так:
«Зяценька!
П'ю да цябе поўным кубкам,
Добрым здароўем,
Што мыслю сабе,
То і табе».

Гапон чарку бярэ ў рукі,
Двойчы выліў за сябе,
А трэці раз для вырукі
Белы рублявік кладзе.
Грыпіна чарку прымае,
У святліцу запрашае.
Дзеўкі-ж карагодам ходзяць,
Жалобны песні заводзяць:

«Хто ў полі паціхоньку гукаець?
Там Кацярынка сваго таткі шукаець.
Хоць шукаець, не шукаець — не знойдзець.
Ой, далёка яе татачка, далёка
У сырой зямлі, у жоўтым пяску глыбока.
Да зрабілі добры людзі вечны дом,
Без дзвярэй, без аконачка, без сонца,
Не прамоўлю, дзіцятка, ні слоўца».

Тут настала частаванне
Дый падаркаў раздаванне, —
Сотню паясоў, маўляў!
Свата ручнікам звязалі,
Баклагу у рукі ткалі,
Штоб гарэлкі больш дастаў.

Лубку з жытам падстаўляюць,
Маладу на ёй саджаюць,
Як каралеўну на ўрад;
Яна-ж усцяж галосіць,
Кругом паклоны разносіць
Дый зноў сядзе на пасад.
Дзеўкі-ж, хлопцы п'юць, гуляюць,
Пад скрыпачку падпяваюць:

«Скочыла Кацярынка з лаўкі далоўкі,
Скланілася мамачцы нізка ў ножкі,
Коркамі зямлю парыла,
Слёзкамі ножкі памыла,
Карыся, Кацярынка, старому,
Кланяйся і маладому,
З паклонаў галоўка не баліць,
Стары і малы благаславіць».

Як баш нявесту прыбралі,
Да двара так паскакалі
Яснай пані чалом біць,
На вяселле папрасіць.
А пані — не пані, маці!
Маўляў роднаму дзіцяці,
Прыгожы пасаг дала,
Радасну слёзку ўраніла,
Маладых благаславіла,
Сама к вянцу павяла.

Ксёндз маладых спатыкае,
На ўсё жыццё іх злучае;
А як скончыўся абрад,
Скрыпіцелі [1] загудзелі,
Дружкі весела запелі,
Дый вярнуліся назад.

---

[1] Скрыпачы, музыкі.

Паню на кут запрасілі,
Пры ёй ксяндза пасадзілі,
Сват парадкам начаў чэсць;
Піва, мёд ракой ліліся,
Каўбасы з салам нашліся,
Уздаволь было піць, есць.

Дзеўкі, хлопцы, маладзіцы
Цэлу ночку па святліцы
Бадзяліся, хто як змог.
Як у гаршчку, там кіпела,
Ад пылу аж пацямнела,
Суматоха — што крый бог!

Я на том вяселлі быў,
Піва, мёд, гарэлку піў,
У роце здаволь было,
А-ж па барадзе цякло.



# ШЧЭРОЎСКІЯ ДАЖЫНКІ

*(Аповесць)*

## *ПРАЛОГ*

Пан і войт Наум

Н а у м

Нех бэндзе Езус Хрыстус пахвалёны!

П а н

На векі векаў! — Здарова, Науме!
А што мне скажаш? — Ці ўжо ад Алёны
Адстала трасца? — як там маёй куме?

Н а у м

Да хваліць богу, дарагі паночак!
Здарова, маўляў баравы рыжочак;
Вось дзякуй пану, што бабе прыслаў,
Святой нядзелькай, варанае зелле;
Выпіла нанач — і недуг устаў,
Вылізалася,— зноў языком меле.
Як кот жывушча; тут стогне, тут крэгчэ,
Няхай-жа бабе стане крыху легчэ,
Палядзь! [1] — вось яна з кута ў кут лятае,
Сама рабошча, — дзетак прыганяе,
Бачыш, сягоння ледзь баба устала,
Зараз да пана з гасцінцам пагнала:
«Вазьмі, Наумка, дзесятак яечак,

[1] Паглядзі, зірні.

Два кураняткі, дый мёду гаршчэчак;
Ідзі да пана, падзякуй за зелле,
Скажы, што бабе хоць-бы да вяселля!
Пагана цётка[1] трасці перастала».

П а н

Ну! — дзякуй богу, што ўжо ачуняла.
Што-ж чутна болей?

Н а у м

Нечага казаць.
Ад ліха ціха,— дабра не чуваць.
Коман назаўтра загадаў дажынкі,
Вось усе дзеўкі да старай Грыпінкі
Сабіраюцца, штоб выбраць дзявіцу
Прыгожу, чэсну — дажынак царыцу;
Катора-б табе, дарагі паночак!
Дый каласісты паднясла вяночак.

Такія пану войт суліў расказы,
Пасля гасцінец на стол палажыў
Да пакланіўся нізенька тры разы;
Пан да Наума гарэлкі прапіў.

I

*ВАРАЖБА*

Вось за Барысавам, да на Русі Белай,
У сяле Шчэроўскам, заўтра, баш, дажынкі;
Разгулялісь дзеўкі,— грамадою цэлай,
З песенькай вясёлай, бягуць да Грыпінкі.
А соненька за бор галоўку хавае,
А месячка з-за туч лоб свой выхіляе.
Удава Грыпіна, стара, што крый божа!
Падпёршыся кіем, ледзь ступіці можа
Па сваёй святліцы,— сотню лет дабіла,
З унукаў прыгожых радасці дажыла.
Нечага, браткі, казаць!
Розум яе — то дзівота!
Варажыць, зло адмаўляць,
То Грыпініна работа.

---

[1] Трасцу або гаручку завуць на вёсцы паганай цёткай.

Бывала, хто заняможа,
Аль хто урачэ скацінку,
Яна ўсякаму паможа;
Чы пашэпчэ, чы крышынку
Якогась зелля падсуне,
Палядзь! — чалавек ачуне;
І скацінку угамоніць,
Злыя рукі адгоніць.

У Грыпінінай святліцы
Сабралася грамада:
Тут дзяўчаты, маладзіцы,
А там хлапцоў чарада.
На куце сама Грыпіна,
Пры ёй справа Акуліна,
Злева — Домна і Харцiння,
Тут-жа Еўга і Усціння;
Усе хоць стары, нядужы,
Да на розум, баш, дасужы.

Грыпіна рукой махнула,
Тройчы ўголас кашлянула,
І цікавы беларусы
Замоўклі, вось маўляў трусы,
Чакаюць, што стара скажа,
Як ім загадку развяжа,
І якія падасць рады,
Каторай, з дзяўчат грамады,
Вянком прыбраці галоўку? —
Трэба-ж прыгожу, дый лоўку;
Штобы сорам знала божы,
Чэсць хавала у старожы,
Галасочак звонкі мела,
Штоб песенькі громка пела:
Сялу штоб не было стыдна.—
Дзяўчаты глядзяць завідна,
Чакаюць на старых волю,
Каторай бог пашле долю? —
«Слухайце, дзеткі! — так кажа Грыпіна,—
Сягодня у нас адвечны абрад,
Катора вянок панясе дзяўчына? —
Трэба-ж сумненна выбраць, не наўгад! —
Вось, міленькія, памолімся богу,
Ен нам не мылну укажа дарогу».

Старэнькі бабы із лаўкі прыўсталі,
Тварыць малітву святую началі,
І — «Ах, мой божа, верую табе,
Усю надзею маю у табе»,
Цэла грамада голасам запела;
Шчыра малітва да неба ўзляцела.
Як святу песню да канца прапелі,
Бабы на места зноў сваё заселі;
І кума Домна стала так казаць:
«У нашым сяле малада Агатка,
Хоць куды дзеўка! — разумна і гладка, —
Вось мая рада: ёй вянок аддаць!» —
— «Не, мая кумка! — другім крыўдна будзе,
Няма-ж тут праўды у гэтакам судзе,—
Так стара Ёўга Домне пераб'е.—
Чы-ж, што Агатка сваяшна табе,
То ўжо вянок ёй маем прысудзіць? —
Не досыць, кумка, прыгожаю быць,
Прыгожых, бачыш, у сяле ёсць многа,—
Трэба штоб дзеўка знала боязнь бога,
Штоб знала сорам, у чэснасці жыла,
Сваім падругам крыўды не чыніла.—
А твая, кумка, малада Агатка,
Хоць разгаворна, хоць лічыкам гладка,
Да яе розум не па-веку будзе,—
Не адно кепства аб ёй чулі людзі:
На ліха жадна з хлопцамі гуляць,
Равесніц сваіх любіць абмаўляць,
Не адну крыўдну разнесла гаворку
На другіх дзевак,— вось і на Тадорку
Пакасны сплетні ў завісці налгала;
Беднай сіротцы славу адабрала;
Тадорка-ж чэсна,— прысягнуць гатова,
Будзь я так шчасна! — будзь я так здарова!
Тадорцы вянком павінна грамада
Прыбраць галоўку,— така мая рада!»
— «Брэшаш, няпраўда!» — Домна пераб'е,
А злосна на ліха! — галавой трасе,
Рукі сашчаміла у два кулакі,
Да аб дзеўцы рэчы завяла такі.
— «Агатчынай чэсці не смей абсуждаць! —
Ну — праўда, дзеткі,— нечага казаць,
Хлопцы за дзеўкай лётаюць, баш мухі,—

Да віна-ж яе, што красней дзявухі
У цэлым сяле пашукай з лучынай? —
З адною толька не смела-б дзяўчынай,
З адной Тадоркай красою раўняцца,—
Да хто-ж ёй вінен? — не трэба-ж займацца
У дварэ з падвальным,— аднаго кахаці;
Быў жаніх Домка,— нашто-ж ёй гуляці
З другімі? — Да, баш, той панскай манеры,
А Домка мужык, хоць чэсны і шчэры;
Думала абодвух затуманіць лоўка,
Маўляў ад прыбылі не баліць галоўка.
Шляхціц не возьмець,— на Домку наляжа,—
Да ён-жа бачыў! — няхай сам раскажа».
Як, баш, злосна Домна кончыла гаворку,
Так зараз на Домку выпучыла вочы;
Зіркнуў на Агатку хлапец, на Тадорку,
Дый так спалохаўся, што не стала мочы
Славечка сказаці, хоць Домна міргала,
Хоць з боку Агатка пальцам знак давала.
А ў беднай сіроткі, прыгожай Тадоркі,
З сіненькіх вочак ліліся слёзкі горкі;
Яна, баш, на долю злу не наракала,
Вось толькі малітву ціхонька шаптала,
Штоб яе нявіннасць бог выказаў ясна,
Штоб Домка спазнаўся, што малва няшчасна,
Каторая сэрца яго адчурыла
Ад вернай дзяўчыны, плёткамі зажыла.
Тут стара Грыпіна рукою махнула,
Ўсе кругом замоўклі,— сваяк ёй Акула
Падышоў да бабы, — та дзеду на вуха
Крыху пашаптала — дый, хітра старуха!—
Паднялася з лаўкі,— ўкруг вокам пагнала,
І такія рэчы ёмка казаць стала.
— «Паслухайце, дзеткі, старэнькай Грыпіны,
Ведама-ж, што ўсякі сакрэтны навіны
Бабе не дзівота,— вось паваражу,
Хто з дзяўчат віновен, праўду вам скажу.—
Пастаў тут, Аўдотка, рэшата навенька,
Падай мне, Акула, пеўня маладзенька,
Затушыце агонь, штобы цёмна стала».—
Вось так і зрабілі, як баба сказала.
Цёмна у святліцы, — выкаль, маўляў, вока,
Дзіва, да і годзе! — ціхасць там глыбока;

Усе із грамады у кучку сабралісь,
Аж воласы дыбам са страху паднялісь,
Ой!.. Трасуцца хлопцы,— трасуцца і дзеўкі!
А баба страшэнны заводзіць прыпеўкі,—
Дый рэшатам пеўня зверху прыкрывае,
Агатку, Тадорку к сабе прызывае.
— «Глядзіце, дзяўчаты! — штобы мысль
бязбожна
Ад вас адступіла,— хлусіць тут не можна,
Тутачка не жарты,— варажба страшэнна! —
Катора з вас будзе пачціва, сумленна,
Няхай смела рукі пад рэшата садзіць,
Няхай пеўня зверху тры разы пагладзіць;
Пявун сядзець будзе спакойна і ціха:
Катора-ж нячэсна,— той, дзетачкі, ліха!
Бо як пявунчыка пагладзіць рукамі,
Крыкне ку-ка-рэ-ку! — пачуеце самі,
Запяе дый годзе! — верце, мае дзеткі!
Варажбой такою я рэчы не гэткі
Выказала свету.— Ну-ж, дзеўкі, да дзела!
Начынай, Агатка! — перахрысцісь... смела!
Агатцы са страху молатам забілась
Нячыстае сэрца; дзеўцы і не снілась,
Штобы злыя матні, так пранырна, ціха,
Застаўлены беднай Тадорцы на ліха,
Вышлі страшнай гадкай людзям на паказ;
Думае: «пастойце! — абману я вас!»
І мезіным пальцам вось не зачапіла
Рэшата, ні пеўня,— на бок адскачыла,
Дый сказала бабе: — «Ужо, мая зорка!» —
— «Добра! — стой спакойна. Ну, цяпер
Тадорка!
Уздыхні да бога,— прыступай да дзела!» —
Так кажа Грыпіна,— і Тадорка смела
Белыя ручонкі пад рэшата садзіць,
Пявунчыка тройчы па крыллях пагладзіць.—
Аж валасы дыбам сталі чалавеку,
Дзіва!.. певень крыкнуў громка ку-ка-рэ-ку,
І затрапятаўся — а-ва!.. вось навіна!
Усе закрычалі: — «віноўна дзяўчына!» —
Бедная-ж сіротка — няшчасна Тадорка,
На сваю злу долю заплакала горка,
А Агатка губу кулаком заткала,

Спадцішка хахоча: бабу ашукала! —
— «Ціха!..» — Агрыпінін голас адазваўся,
І замоўклі разам,— усяк іспугаўся. —
— «Што закрычаў певень — невяліка дзіва;
Вось зараз пакажа варажба шчаслiва
Тую, што ў чэсці, праўдаю жыве.
Падступіце бліжай, дзяўчаты, ка мне! —
Каторай з вас рукі памараны ў сажу,
Та пачціва дзеўка,— так гаданне кажа.—
Скарэй штоб лучынай хату асвяцілі!» —
Як баба сказала,— так яны зрабілі.—
Далоні Агаткі, як малако, белы,
А, як смоль, Тадоркі, — сажаю блішчаць.
Тут стара Грыпіна, злосна, уголас цэлы,
На хітру дзяўчыну узяла крычаць:
— «Га, шатаньска племя! — язык твой змяінай.
Досыць здзекаваўся вось над сірацінай,
Брахаць яму годзе! — Бог цябе накажа,—
Прызнайся тут зараз — ты, нячысты ўража!» —
Агатка аж млее з вялікай трывогі,
А пасля Грыпіне кінулася ў ногі,
Дый загаласіла: «Мае вы міленькі!
Даруйце-ж няшчаснай, мае селязенькі!
Скажу ўсю праўду,— хлусіць вам не буду,
Толькі-ж не завіце нябеснага суду
На бедну галоўку: страшан мне суд божы!—
Вось як было, браткі! — Угледзя, што прыгожы
Домка на ігрышчах з Тадоркай танцуе,
Кулаком, гарэлкай кожэн раз частуе,
Да з ёй-жа зручыўся, — завідна мне стала,
А Домку я сэрцам, ах, вельмі кахала! —
Думаю у злосці, як-бы тут зрабіць,
Штобы ад Тадоркі дзяцюка адбіць?
А чорт мне з падвальным, як тут, навязаўся,
Падвальны-ж Тадорцы не раз напрыкраўся.—
Ну-ж бегці у бровар,— ну-ж яму хлусіці!
Што Тадорцы нельга без яго і жыці,
Што быццам маркотна,— павідацца-б рада,
Вечарком чакаці будзе возле сада.—
Хлапец ад радасці красен, як жар, стаў,
Кілішкам гарэлкі мяне частаваў.—
Там сваё зрабіўшы, пашла да Тадоркі,
І ёй нахлусіла, што возля аборкі,

